# ПАГОНЯ

Чацвер
18 траўня 2000 г.
№ 17 (464)
Кошт 70 рублёў


## Не дачакаліся!

14 траўня, у гадавіну сумнага рэферэндума 1995 года, Гарадзенскую Управу БНФ і рэдакцыю газеты ПАГОНЯ, якія месцяцца ў адным будынку, ахоўвалі мясцовыя «вартавыя парадку». Міліцэйскія машыны ўвесь дзень курсіравалі ў гэтым раёне ў чаканні «незаконных» дзеянняў з боку апазіцыянераў. Але, на жаль, не дачакаліся.

Ул. Інф.

## ПАГОНЯ высвятляе адносіны з РНЕ

**На мінулым тыдні ПАГОНЮ наведаў кіраўнік гарадзенскіх РНЕшнікаў Андрэй Сабовіч. Прычыны такога нечаканага візіту - прэтэнзіі да газеты, якая, паводле ягоных словаў, назваўшы тых, хто біў шкло ў сядзібе БНФ, сябрамі Русского Национального Единства, дапусціла недакладнасць.**

- Я ніколі не прыходзіў да вас, нягледзячы на шматлікія негатыўныя публікацыі пра РНЕ. Аднак, гэта зусім іншы выпадак. Шкло білі не сябры арганізацыі, якую я ўзначальваю.

Як сцвярджае спадар Саковіч, у ягонай арганізацыі жорсткая дысцыпліна і без ягонага ведама альбо загаду ніводны сябар РНЕ зрабіць гэта не мог.

Разам з тым, аўтар публікацыі, кіраўнік гарадзенскай Рады БНФ «Адраджэньне» Сяргей Мальчык заявіў, што звесткі аб сяброўстве злачынцаў у РНЕ, ён атрымаў з дакладных крыніцаў (па вядомай прычыне - канфідэнцыяльных) у праваахоўных органах.

Хто мае рацыю, хто вінаваты, магчыма, пакажа развіццё бліжэйшых падзеяў. У любым выпадку чытачы могуць не сумнявацца, што ПАГОНЯ ніколі не стане на шлях хлусні, падману альбо падтасоўкі. Праўда заўсёды была і застаецца асноўным крытэрыем нашых публікацыяў. Што тычыцца візіту прадстаўніка РНЕ ў рэдакцыю, то нам падаецца, што высвятляць адносіны такім чынам, - гэта для любой арганізацыі заўсёды лепшы варыянт, чым біць шкло.

Ул.Інф.

## Маці «прабілі» вертыкаль

**Прадстаўнікі грамадскай арганізацыі «Крыніца міласэрнасці» - мнагадзетныя маці з Гродна - адмовіліся ад правядзення галадоўкі, запланаванай на 15 траўня ў знак пратэсту супраць самавольства мясцовых чыноўнікаў.**

За два дні да пачатку гэтай акцыі прадстаўнікі Гарадзенскага гарвыканкама выканалі патрабаванне жанчын і прадаставілі арганізацыі «Крыніца міласэрнасці» памяшканне, прычым у цэнтры горада - на Савецкай плошчы, у гатэлі «Нёман». Больш таго, штомесячная плата за арэнду памяшкання для гэтай грамадскай арганізацыі будзе зніжана ў 10 разоў у параўнанні з агульнагарадскай. Яна складзе 0,6 даляра ЗША за адзін квадратны метр.

Працэс падпісання дагавора аб арэндзе памяшкання, а таксама выдачы ордэра і ключоў ад пакоя прайшоў у рэкордна кароткі тэрмін - на працягу аднаго дня, 12 траўня. Хаця, як правіла, гэтыя працэдуры займаюць некалькі тыдняў. Мясцовыя назіральнікі тлумачаць такія нехарактэрныя паводзіны ўладаў іх нежаданнем «выносіць смецце з хаты» і рэзанансам, які б узнік у выніку галадоўкі мнагадзетных маці.

Як вядома, пра акцыю пратэсту былі афіцыйна паведамлены не толькі мясцовы гарвыканкам, але і кіраўніцтва Гарадзенскага аблвыканкама, а таксама Савет Міністраў Беларусі.

Наталля Кулагіна




**19, 20 траўня** - пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер паўднёва-ўсходні. Тэмпература паветра 19 траўня - уначы +2...+4, удзень +22...+25; 20 траўня - уначы +4...+8, удзень +24...+28.

# Русіфікацыя

**Выцясненне беларускай мовы з фундаментальных сфераў ужытку - дзяржаўнага справаводства, афіцыйных зносінаў і адукацыі - справакавала перавод 5 «А» класа гарадзенскай школы N26 з беларускай мовы навучання на рускую.**

Як сведчыць дырэктарка школы Валянціна Мікалаеўна Улькевіч, гэта першы такі выпадак за адзінаццаць год існавання беларускамоўных класаў у школе.

Усё пачалося з таго, што яшчэ напачатку гэтага навучальнага года бацькі вучняў 5 «А» класа звярнуліся да адміністрацыі школы з просьбай перавесці навучанне па ўсіх прадметах з беларускай (як было пяць год) на рускую мову. Тады завучы і дырэктарка парэкамендавалі бацькам пачакаць да канца навучальнага года, бо ў верасні такое пытанне вырашыць немагчыма фізічна.

І вось час вырашэння надышоў. Увесну гэтага года Кастрычніцкі раённы аддзел адукацыі атрымаў ліст з 19-ю подпісамі бацькоў пяцікласнікаў з той самай просьбай - памяняць мову навучання. Днямі школа атрымала адказ за подпісам начальніцы райана спадарыні Цыганковай з вердыктам, які цытуем: «Аддзел адукацыі не рэкамендуе вам змяняць мову навучання». Сярод адмоўнасцяў русіфікацыі навучання называюцца неабходнасць адаптацыі да рускамоўных тэрмінаў, дэфіцыт падручнікаў па матэматыцы на рускай мове ды іншыя.

### Школа Шаўцова здалася апошняй

Сярэдняя школа N26 - адзіная ў Гродне школа, дзе ўжо 11 год большасць класаў складалі менавіта беларускамоўныя. Разам з тым, у школе строга трымалася двухмоўе - у кожнай паралелі былі як беларускія, так і рускія класы. Да гэтай пары СШ N26 - адзіная, дзе ўсё справаводства вядзецца на роднай мове. Аднак са зменай моўнай палітыкі дзяржавы пайшлі змены і ў школе. Ужо тры гады ў «самай беларускай» школе горада няма ніводнага беларускамоўнага першага класа. І сёлета адзін з пятых класаў рашэннем бацькоўскага схода перайшоў на рускамоўнае навучанне. Прыняцце канчатковага рашэння адбылося на бацькоўскім сходзе на мінулым тыдні. Ніякіх прынцыповых спрэчак між бацькамі не было - 20 з 21 вырашылі рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права аб выбары мовы зносінаў. Забараніць гэта ім ніхто не можа ды і не збіраецца.

Чаму так адбылося, гэтыя 20 бацькоў тлумачаць амаль аднолькава: «Як маё дзіця будзе здаваць экзамены па фізіцы і хіміі ў інстытут па-руску, калі ўсе тэрміны яно вучыла сем год па-беларуску?» Такім чынам, непараадольнай перашкодай для беларускай школы паўстала адсутнасць беларускай вышэйшай школы. Бацькі і адміністрацыя школы называюць гэта аб'ектыўнай прычынай прэцэдэнта. Падчас бацькоўскага сходу педагогі - класная кіраўніца, завуч, дырэктарка - рабілі слабыя намаганні перakanaць бескампрамісных у сваім рашэнні бацькоў адмовіцца ад русіфікацыі. Але ўсе іхнія намаганні засталіся дарэмнымі - сход вырашыў-такі змяніць мову навучання на рускую. І ўсялякія высокія словы пра нацыянальную свядомасць і родную мову былі тут нібыта і не да месца - проста пустымі словамі, што выклікалі толькі іранічную ўсмешку. Твар жыцця такі: жорсткая рэальнасць дыктуе правілы гульні.

### Па-беларуску вучыцца няспрытна?

Можна колькі заўгодна гаварыць, як гэта дрэнна і несвядома - вучыцца ў рускамоўнай школе, па-беларуску гаварыць толькі на канікулах у бабулі ў вёсцы і чытаць «Комсомолку», а не «Чырвоную змену» - ад гэтага нічога не зменіцца. Без нацыянальна скіраванай дзяржаўнай палітыкі павароту да беларусізацыі беларускай адукацыі (выбачайце за таўталогію) чакаць не даводзіцца.



Сёння ў рэспубліцы няма ніводнага універсітэта ці інстытута, дзе б выкладанне (у тым ліку замежных моваў) вялося на роднай і адначасова дзяржаўнай мове - беларускай.

І таму дзівам дзіўным падаецца тое, што да гэтай пары 51 працэнт школьнікаў па вобласці і трацiна па рэспубліцы вучыцца ў беларускамоўных школах і класах. А фантастычная лічба апошняга перапісу насельніцтва, дзе амаль 40 працэнтаў грамадзянаў Беларусі мовай паўсядзённага ўжытку назвалі беларускую, з'яўляецца, хутчэй за ўсё, ілюстрацыяй прынцыпу «Вось вам наша «фэ».

Пасля рэферэндума 1995 года, які ўвёў у нашай краіне двухмоўе, беларуская мова рэальна апынулася на задворках жыцця. Дзяржчыноўнікі цяпер не саромеюцца на запыты па-беларуску адказваць: «Я по-белорусски не понимаю». Усё справаводства вядзецца па-руску. Адукацыя зрусіфікаваная.

І да гэтай пары не чуваць пра рэальныя дзяржаўныя праекты па наданню беларускай мове належнага дзяржаўнага статусу. Толькі ў кулуарах ходзяць чуткі накont праграмы беларусізацыі школы, якая да лета бягучага павінна быць апублікаваная Міністэрствам адукацыі. На жаль, пакуль што гэтыя чуткі не былі пацверджаныя ні ў аблана, ні ў гарана.

### Высокія словы і рэальныя правілы гульні

Пакуль што адзіным захадам грамадскасці па вырашэнні моўнага пытання застаецца перавод дзяцей у рускія класы. Хаця можна было б, напрыклад, так жа салідарна патрабаваць рэалізацыі таго ж канстытуцыйнага права выбару мовы праз стварэнне беларускамоўных групаў і факультэтаў у ВНУ ды ільготаў для беларускамоўных абітурыентаў.

На сёння адзіным канструктыўным праектам з'яўляецца праект Таварыства Беларускай Мовы па стварэнню Беларускага Нацыянальнага Універсітэта. ТБМ мае больш за 15 тысяч подпісаў у падтрымку гэтага праекту. У ініцыятыўную групу ўваходзяць Алесь Астроўскі, Алесь Краўцэвіч, Алег Трусаў, Адам Мальдзіс, Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава ды іншыя асобы.

Аднак, калі гэта будзе рэалізавана - невядома. Пакуль што сябры ТБМ у аўторак, 16 траўня, ладзілі пікет «Беларуская мова і яе стан», дзе выступалі за неабходнасць надання беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай. Старшыня гарадзенскай філіі ТБМ Аляксей Пяткевіч так агучнуўся пра сітуацыю ў сярэдняй школе N26: «Наша стаўленне да гэтага самае адмоўнае. Школа русіфікуецца з непарадоднай хуткасцю. Бацькі глядзяць на сітуацыю ў краіне. А сітуацыя з мовай дайшла да катастрафічнага стану».

Алена Сіневіч

## Пяць гадоў знямення

**Гарадзенская філія Таварыства Беларускай Мовы ў аўторак ля Дома сувязі ладзіла пікет у абарону беларускай мовы. Ён быў прымеркаваны да пятых угодкаў прэзідэнцкага рэферэндума 14 траўня 1995 года, які фактычна знішчыў беларускую мову, нацыянальны герб і сцяг.**

Каля 20-ці чалавек раздавалі беларускія кніжкі, улёткі ды трымалі плакаты з надпісамі: «Мама, навучы мяне размаўляць па-беларуску!», «Русіфікацыя - гэта вынік акупацыйнай палітыкі Масквы». Вялікую цікавасць выклікаў плакат «Міністр замежных справаў Беларусі Урал Латыпаў паабяцаў вывучыць беларускую мову да канца 2000 года. А калі яе вывучаць гарадзенскія ўлады?» Да гэтага можна было б дадаць - «калі беларускую мову пачнуць вучыць гарадзенскія школьнікі?» Бо ў Гародні, дзе жыве 56,1 працэнта беларусаў, няма ніводнай беларускай школы, затое на 17,8 працэнта рускіх - ажно трыццаць шэсць.

Пікетоўцы збіралі таксама подпісы за стварэнне Беларускага Нацыянальнага Універсітэта, дзе ўсе прадметы будуць выкладацца толькі па-беларуску.

З боку прахожых чуліся не толькі словы падтрымкі. Давялося пікетоўцам выслухаць і абвінавачванні кшталту: «Стаіце тут ат бездзелья», «Вам жэ ЦРУ всем заплаціла», «Заробку не прыбавіцца, калі будзем размаўляць па-беларуску,» - заявіла адна, відаць, вельмі прагматычная кабета.

Пікет прыцягнуў увагу не толькі звычайных людзей. Блізу правядзення пікету, на працягу дзвюх гадзін «дзяжурылі» тры міліцыянты. Адзін з іх старанна перапісаў змест усіх плакатаў. Асобы пікетоўцаў былі «зафіксаваныя» кінакамерай.

Сярод удзельнікаў пікету ды тых, хто ім зацікавіўся, было шмат моладзі.

Алеся Сідлярэвіч

## З Чыкага ў Гродна

**Некалькі дзён на Гарадзеншчыне знаходзіліся прадстаўнікі амэрыканскай арганізацыі «Heartland International».**

Менавіта гэтая арганізацыя сёлета прымала прадстаўнікоў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў у межах праграмы «Community Connections».

Чыкага, дзе месьціцца офіс «Heartland International», наведалі сябры грамадзкіх арганізацыяў «Трэці сэктар», «Рада-23», «Ратуша», «Цэнтр міласэрнасьці «Сям'я» (усе - Гродна), «Ветразь» (Слонім) і шэрагу іншых аб'яднаньняў з усёй Беларусі.

На пачатку гэтага тыдня госьці з ЗША наведалі вышэйназваныя і некаторыя іншыя гарадзенскія арганізацыі, а ў аўторак транзітам праз Слонім накіраваліся ў Берасьце.

Вітаўт Руднік

## Алімпіяда моладзі

**У нядзелю, 21 траўня, урачыстай імпрэзай ля Каложскай царквы распачнецца трэцяя Гарадзенская Алімпіяда моладзевых няўрадавых арганізацыяў.**

Свае каманды на ўдзел у Алімпіядзе выставілі Малады Фронт, Маладая Грамада, Грамадзянскі Форум, Незалежны моладзевы рух, анархісты. Таксама ўдзел возьмуць і прадстаўнікі моладзевых арганізацыяў Вялікай Бераставіцы, Ваўкавыска, Мастоў.

Тры тыдня Алімпіяды насычаныя разнастайнымі мерапрыемствамі. Футбол, баскетбол, валейбол, стральба, шахматы будуць чаргавацца з конкурсам бардаўскай песні, спаборам на лепшую карыкатуру і традыцыйным абраннем «Міс Алімпіяды».

Адкрыццё Алімпіяды а 19-й гадзіне. Арганізатары запрашаюць усіх ахвотных.

Ул.Інф.

# Інтэрв'ю з Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь Рыгорам Пракаповічам

**На мінулым тыдні бягучага года адбылася чарговая сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з Генеральным пракурорам Рэспублікі Беларусь Р.Пракаповічам. Пасля гэтай сустрэчы журналіст звярнуўся да Генеральнага пракурора з шэрагам пытанняў.**

***- Рыгор Пятровіч, перш чым запытацца у Вас, наконт чаго ішла размова з Сямёнам Георгіевічам, хацелася б высветліць, чаму ў бягучым годзе з Вашага боку не зроблена ніводнага паведамлення ў СМІ?***

- Як вам вядома, 27 лістапада 1999 года на чарговым пасяджэнні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з выкананнем усіх працэдурных пытанняў я быў абраны на названую пасаду. У чарговы раз хачу падзякаваць сваім калегам-дэпутатам за аказаны мне давер і я задаволены, што гэтае рашэнне імі прынята своечасова і юрыдычна пісьменна.

Праз некаторы час (снежань 1999 года) у адпаведнасці з патрабаваннямі крымінальна-працэсуальнага закона (КПК РБ) мною распачата крымінальная справа па факце захопу ўлады ў Беларусі неканстытуцыйным шляхам (артыкул 61 частка 2 КК РБ). Справа знаходзіцца ў працы следчага Генеральнай пракуратуры па асабліва важных справах, прозвішча якога пакуль не называю па вядомых абставінах. Вядзецца следства ў дачыненні да прадстаўнікоў усіх галінаў улады: заканадаўчай, выканаўчай і судовай.

Ход правядзення следства мною кантралюецца, але, улічваючы значнасць названай крымінальнай справы, Генеральнаму пракурору і падначаленым яму асобам няма неабходнасці часта выступаць у сродках масавай інфармацыі з якімісьці сенсацыйнымі паведамленнямі, каб не пашкодзіць аб'ектыўнасці следства.

***- Пра што ж усё-ткі Вы размаўлялі сёння з Сямёнам Георгіевічам?***

- Я часта сустракаюся са Старшынём Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёнам Шарэцкім. Тэмы нашых размоваў вельмі разнастайныя. На сённяшняй сустрэчы ішла размова і пра ўзгаданую мною крымінальную справу. Але давайце не будзем спяшацца. Яшчэ раз магу падкрэсліць, што закон гарантуе тайну следства, і мы будзем строга прытрымлівацца закона. Скажу толькі наступнае: пасля азнаямлення з матэрыяламі следства бачу, што некаторыя асобы з дзяржаўных органаў спасылаюцца на тое, што парушаць законы іх хтосьці прымушае. Гісторыя ўжо ведае на гэты конт класічныя прыклады. Але я хачу сказаць пра тое, што дзеянні гэтых асобаў і грамадзянаў, якія выконвалі загады ці тым больш вусныя ўказанні іх начальнікаў, не вызваляе іх ад адказнасці. Гэта можа разглядацца толькі як змякчальны аргумент злачынства, якое ўстановіць, а пасля і вынясе свой прысуд Справядлівы Суд.

***- Пасада Генеральнага пракурора па-свойму мізэрная, і кожная ўлада, баючыся яго, спрабуе зрабіць яго «сваім». Як Вы да гэтага ставіцеся?***

- Даючы згоду на прызначэнне на пасаду, я зыходзіў з таго, што пракурор павінен толькі выконваць закон, а не парушаць яго, а таксама патрабаваць выканання Закона грамадзянамі і дзяржаўнымі адказнымі асобамі, не звяртаючы пры гэтым увагу на пасады, і распачынаць справу ў дачыненні да любога палітыка ці афіцыйнай асобы, якія парушаюць закон. Я не быў і не буду чыімсьці стаўленікам, а тым больш палітыкаў. Гэта мой адказ «добразычліўцам» і «народавольным» каментатарам.

***- У нашай з Вамі гутарцы нельга абмінуць такую тэму, як карупцыя. Вашыя меркаванні на гэты конт?***

- Сказаць, што гэтая тэма ў сучасны момант ды, мабыць, і ў аглядальнай будучыні вельмі вострая для нашай рэспублікі - значыць яшчэ нічога не сказаць. Многія так званыя «народныя абаронцы», якія спекулююць на гэтай тэме, а таксама ўзгадваючы пра міфічныя скрынкі кампрамата, нават здолелі дасягнуць вяршыняў улады, але, як толькі зразумелі, што ўлада ў іх руках, на свае абяцанні забыліся. Таму я не хачу, каб і пра мяно працу на пасадзе Генеральнага пракурора ў беларускага народа склалася такое ж уражанне. Сёння ў мяне ёсць ужо шэраг матэрыялаў кантрольна-рэвізійных службаў, якія праверылі дзейнасць Адміністрацыі былога прэзідэнта. Тым больш, што ў сучасны момант старонкі газетаў стракацяць паведамленнямі пра карупцыю чыноўнікаў як ніжэйшага ўзроўню, гэтак і тых, хто знаходзіцца на вяршыні ўлады. Пераліччанае будзе прадметам абмеркавання, праверкі і прыняцця мераў пракурорскага рэагавання ў бліжэйшы час. Але ў дадзеным выпадку мы будзем прытрымлівацца толькі закона, а не прыпадабняцца тым былым адказным і не вельмі адказным людзям, якія яшчэ да суда прызначалі ўжо нават меру пакарання. Хачу ўзгадаць і зноў паўтарыць: прызначыць віну і асудзіць чалавека можа толькі суд. Так гэта робіцца ў цывілізаваным свеце і так будзе ў Рэспубліцы Беларусь.

***- Рыгор Пятровіч, я зразумеў з нашай гутаркі, што бліжэйшым часам будзе распачата крымінальная справа аб карупцыі дзяржаўных асобаў?***

- Правільна. І, мабыць, не адна. Але пра гэта мы паразмаўляем з Вамі наступным разам.

**Гутарыў Віктар Федаровіч**





"На маленьком плоту сквозь бури, дождь и грозы, Взяв лишь мечты и грёзы, я тихо уплыву..."

# «Гродзенская ініцыятыва» ўмацоўвае пазіцыі

**32 паўнамоцныя прадстаўнікі палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў, таварыстваў нацыянальных меншасцяў рэгіёна, моладзевых рухаў, інфармацыйных цэнтраў і асацыяцыяў, хрысціянска-дэмакратычных саюзаў, Незалежных і Свабодных прафсаюзаў, ветэранскіх суполак пацвердзілі свае прадстаўніцтва ў Каардынацыйным камітэце «Гродзенская ініцыятыва».**

Такая згода падмацавана асабістымі подпісамі пад адпаведным дакументам кіраўнікоў Гарадзенскай гарадской і абласной арганізацыяў БНФ «Адраджэньне», гарадской філіі БСДГ (Грамада), Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада», абласнога аддзялення Беларускага Хельсінкскага камітэта, гарадской арганізацыі «Грамадзянскі форум», Саюза палякаў Беларусі і грамадскага аб'яднання літоўцаў «Тэвінэ», Таварыства Беларускай школы і Таварыства беларускай вышэйшай школы, гарадской арганізацыі аб'яднання ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл, грамадскага аб'яднання «Паходня», абласной асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, моладзевага «Альянса імя Вітаўта Вялікага», Маладога Фронту і Маладой Грамады, абласной арганізацыі «Беларускага аб'яднання маладых палітыкаў», грамадскага аб'яднання «Бацькаўшчына» ды інш.

Сярод асноўных кірункаў дзейнасці вызначаны наступныя прыярытэты - умацаванне незалежнасці Беларусі, абарона правоў чалавека, вяртанне да дэмакратычных формаў мясцовага самакіравання, ажыццяўленне эканамічных пераўтварэнняў для паляпшэння дабрабыту людзей.

Пацверджанне свайго прадстаўніцтва ў Каардынацыйным камітэце «Гродзенская ініцыятыва» кіраўнікамі 32-х няўрадавых грамадскіх арганізацыяў з'явілася яскравым адказам на публікацыі ў некаторых беларускіх сродках масавай інфармацыі аднасна расколу, які нібыта меў месца ў Каардынацыйным камітэце «Гродзенская ініцыятыва».

**Антон Лабовіч**

# «Абрусіцелі» XX стагоддзя

**Гісторыя паўтараецца. Тыя ж падзеі адбываюцца сёння і з нашай шматпакутнай Беларуссю.**

Напрыканцы XVII стагоддзя, пасля так званага трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, Беларусь трапіла на доўгія гады ў склад Расеі. Аднак тады ніхто не спытаўся ў беларусаў, ці жадаюць яны жыць пад уладай Расеі, а здзейснена ўсё было з пазіцыі больш дужага «суседа».

Вось як апісвае гэтыя падзеі ў сваім рамане «Обрусители» расейская пісьменніца Н.Ланская: «Находчивым и смелым людям тут было раздолье; тут можно было сделаться помещиком без гроша; не купив леса - выгодно продать его; совершить какую угодно сделку называясь чьим угодно именем. Аттестатов никаких не требовалось, достаточно было приехать из России и заявить себя православным, чтобы получить право на такие льготы, права и преимущества, которые превращались в настоящий рог изобилия. Можно представить, какая масса разной дряни наводнила собой эти несчастные 9 губерний. Как саранча, бросились они на готовые места, торопясь захватить всё то пространство, которое было для них насильственным образом очищено»...

Сёння ж, праз два стагоддзі, паўтараецца амаль тое ж самае.

Беларусь, якая ізноў вярнула ў 1991 годзе сваю незалежнасць, але не паспела замацавацца палітычна на сусветным узроўні, апынулася перад пагрозай страціць свой суверэнітэт і вярнуцца ў склад Расеі.

Толькі зараз гэтыя падзеі выглядаюць некалькі інакш. Беларусь паступова ўцягваецца ў расейскі вір пад выглядам «добраахвотнага волевыяўлення народа». Прыкрываючыся гэтымі словамі, кіраўніцтва Беларусі паступова і настойліва праводзіць лінію на ліквідацыю незалежнасці. А каб было менш супраціўлення, з боку вышэйшага кіраўніцтва краіны праводзіцца мэтанакіраваная палітыка «русіфікацыі» вядучых асобаў ва ўладзе Беларусі.

Возьмем, напрыклад, Савет Міністраў. Там на сённяшні дзень усе вядучыя пасады апынуліся ў руках расіянаў, хаця да апошняга часу ўзначальваў урад беларус - Сяргей Лінг. Аднак і ён вымушаны быў пайсці ў адстаўку. Замест яго быў прызначаны рускі па нацыянальнасці - Уладзімір Ярмошын. Ягоныя намеснікі Кокараў, Замяталін, Патапаў - таксама рускія.

Асноўныя сілавыя структуры ўзначальваюць рускія па нацыянальнасці міністр абароны Чумакоў і міністр унутраных справаў Сівакоў. Затое ў расейскім урадзе беларусаў няма. Няма іх і ў наноў абраным Парламенце. Ды дзе тыя «роўныя правы»?

Відавочна, такі «кантынгент» кіруючых асобаў будзе верай і праўдай падтрымліваць ідэю аб'яднання. Для іх аб'яднанне з Расеяй раўназначнае вяртанню дамоў «блудната сына». Аднак паўстае пытанне: дзе падзеліся сыны беларускага народа? Чаму яны не скажуць свайго слова? А мо такіх ужо няма? Мо баяцца сказаць тое, што думаюць? Альбо, як тыя іуды, паціху прадаюць незалежнасць Бацькаўшчыны? Хаця іх таксама можна зразумець. Некаторыя баяцца згубіць «цёплыя» месцы, хаця раней ці пазней іх усё роўна заменяць рускімі, як гэта зрабілі з С.Лінгам. Другія баяцца пераследу з боку ўладаў, а пераслед весці ёсць каму.

На сённяшні дзень уся Беларусь нашпігаваная сілавікамі. Суды таксама вырашаюць справы не заўсёды на карысць «змагароў за незалежнасць». Гэта ж трэба, каб міліцыянты амаль узводамі ганялі бабуляў з-пад рынку!.. Некаторыя з іх прыносяць мо нават апошняе на продаж, каб дадаць да сваёй жабрацкай пенсіі. Паспрабуйце сёння зайсці ў любы банк ці суд. Там вас адразу спыняць міліцыянты. У аблвыканкаме, Упраўленні дзяржкантролю - усюды міліцыянты. А колькі іх ходзіць па вуліцах гарадоў! Дык каго ж вы, спадары чыноўнікі, баіцеся? Чаму адгарадзіліся ад народа міліцыянтамі? Яны ж вельмі дорага каштуюць падаткаплацельшчыкам.

Ва ўсе часы праход у абкам, аблвыканкам, гарвыканкам, суды, банкі, народны кантроль быў свабодным, і ніхто ні на каго «не нападаў». Чаго баяцца - рабіце ўсё па справядлівасці - і жывіце спакойна.

Паважаны Аляксандр Рыгоравіч, Вы ж - беларус. Вас нарадзіла і выгадавала беларуская маці. Дык хоць цяпер азірніцеся, асэнсуйце, што робіце, куды вядзяце Бацькаўшчыну? Хоць цяпер не дапусціце аб'яднання бюджэтаў ды грашовых сістэмаў. Гэта апошнія крокі да страты незалежнасці Беларусі. Пастка з бясплатным сырам можа зачыніцца, і надоўга. Не верце, што Вам абяцаюць расіяне. Як толькі аб'яднаемся, дык яны адразу пакажуць сваё «сапраўднае» аблічча, але тады ўжо будзе позна.

**Зыкфрыд Кузьма, ветэран працы**

* * *

**У сакавіку бягучага года ў горадзе Гродна падпісана пагадненне аб утварэнні Каардынацыйнага савета грамадскіх аб'яднанняў горада Гродна і Гарадзенскай вобласці, якія ўдзельнічаюць у арганізацыі назірання за маючымі адбыцца выбарамі ў Рэспубліцы Беларусь.**

Пагадненне падпісалі: кіраўнік Абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання «Рух за дэмакратычныя і свабодныя выбары» Аляксей Шульга, кіраўнік абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Фонд імя Льва Сапегі» Уладзімір Хільмановіч, кіраўнік абласной арганізацыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў Павел Жук, старшыня грамадскага аб'яднання «Гарадзенскі гарадскі клуб выбаршчыкаў» Дзмітрый Кулак, кіраўнік грамадскага аб'яднання «Ратуша», намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Беларускага Адольф Зацэпін, кіраўнік Гарадзенскага гарадскога грамадскага аб'яднання ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сіл Мікалай Мельнікаў, старшыня Саюза Палякаў Беларусі, старшыня абласнога аддзялення Беларускага Хельсінкскага Камітэта Аляксандр Антанюк.

Удзельнікамі Каардынацыйнага савета распрацавана праграма семінараў па навучанню назіральнікаў на выбарах. Будучыя назіральнікі праслухаюць лекцыі па тэмах: «Выбарчае заканадаўства Беларусі», «Месца і роля назіральнікаў у працэссе падрыхтоўкі і правядзення выбараў», «Кодэкс паводзінаў назіральнікаў», «Парадак фармавання выбарчых камісіяў і ўключэнне ў іх склад прадстаўнікоў грамадскіх структураў», «Формы і спосабы парушэнняў, іх уплыў на вынікі галасавання». Для чытання матэрыялу запрошаныя дэпутаты Абласнога Савета народных дэпутатаў XXI склікання Яўген Насань і Валерый Задаля, выкладчыца ГрДзУ Таццяна Маліноўская, кіраўнік праваабарончага цэнтра "Вясна" Сяргей Мальчык.

Першы семінар па распрацаванай праграме праведзены 24 красавіка ў Гродне. У семінары ўзялі ўдзел прадстаўнікі 16-ці раёнаў Гарадзенскай вобласці, сябры гарадскіх грамадскіх аб'яднанняў. Перад удзельнікамі семінара выступіў старшыня Свабоднага Прафсаюза Беларускага Генадзь Быкаў, а таксама старшыня Каардынацыйнага камітэта "Гродзенская ініцыятыва" Сямён Домаш.

Сёмага траўня семінар быў праведзены ў Ваўкавыску. Удзельнічалі ў ім сябры Ваўкавыскіх, Свіслацкіх, Шчучынскіх і Мастоўскіх грамадскіх арганізацыяў.

Удзельнікі Каардынацыйнага Савета праводзяць работу па аб'яднанню грамадскіх арганізацыяў горада і вобласці, а таксама прывабліваюць актыўных людзей, якія жадаюць прыняць удзел у правядзенні назірання за ходам выбараў. Усе ахвотныя ўзяць удзел у рабоце Каардынацыйнага Савета могуць звяртацца на нумар тэлефона 75-07-45 з 13.00 да 17.00.

# У гасьцёх у Максіма

**Дванаццатага траўня споўнілася 83 гады зь дня сьмерці Максіма Багдановіча. За месяц да гэтага, нам - прадстаўнікам шэрагу беларускіх грамадзкіх арганізацыяў - пашчасьціла ўшанаваць памяць пра паэта на яго магілцы ў Ялце.**

Ялцінскія могілкі знаходзяцца на самым ўскрайку горада: з аднаго боку зацягнутыя аблокамі горы, з другога - сіняе мора ў ціхай бухце. На пошукі магілкі Максіма мы мелі небагата часу і не былі ўпэўненыя, што наша задума атрымаецца - вельмі ж шмат людзей знайшлі вечны спакой на гэтым кавалку зямелькі. На шчасьце, сталага ўзросту дзяцюк, які даглядае могілкі, адразу ж падказаў нам кірунак пошукаў, даў зразумець, што мы ў Максіма - далёка не першыя госьці.

І сапраўды, уздоўж сьцежкі рукой нейкага добразычліўцы на металічных слупках масьлянай фарбай былі намаляваны стрэлкі з надпісам: «Да М.Багдановіча».

Вось, нарэшце, і месца апошняга прытулку Максіма, які ў лютым 1917-га прыехаў у Ялту у спадзеве вылячыцца ад сухотаў. Пад разгалістым кіпарысам стаіць блакітнага колеру помнік з выявай васілька ўверсе. Пад васільком радкі зь верша:

*Хоць зернейкі засохшымі былі*
*Усё ж такі жыцьцёвая*
*Іх сіла*
*Збудзілася і буйна*
*Ўскаласіла*
*Парой вясенняй збожжа*
*На ральлі*

І ніжэй: «Беларускі пісьменнік-паэт Максім Багдановіч».

Магілка дагледжаная. Незадоўга да нас хтосьці павымятаў сьмецьце, якое назьбіралася за зіму, паставіў кветкі, да якіх мы дадалі свой букет гіяцынтаў. На галінцы дрэва над помнікам вісіць бел-чырвона-белая стужка. Крыху вышэй - ужо цёмная ад часу маленькая выява Пагоні. Здымак, зьмешчаны ў газэце, наўрад ці здолее перадаць усё тое сьвятло і тыя колеры, якія атачаюць магілу Максіма. Куды лепш усё гэта выглядае на здымках, перададзеных намі ў Гарадзенскі музэй Максіма Багдановіча.



Гарадзенцы ля магілы Максіма

*У краіне сьветлай,*
*Дзе я паміраю,*
*У белым доме ля ціхай бухты*
*Я не самотны,*
*Я кніжку маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

Асабіста я ехаў з Ялты з думкамі пра тое, што не кожнаму, напэўна, перад сьмерцю пашчасьціць сказаць самому сабе такія словы. А так хочацца пакінуць пасьля сябе хоць кроплю таго сьвятла, якое засталося нам пасьля Максіма.

**Вітаўт Руднік**

# Беларусь для ўсіх адна

**Каардынацыйны камітэт «Гродзенская ініцыятыва» і абласная грамадзкая арганізацыя «Ратуша» правялі семінар на тэму «Праблемы нацыянальных меншасьцяў Гарадзеншчыны. Гісторыя, лічбы, законы, факты». Адкрыў семінар старшыня Каардынацыйнага камітэта, сябра Прэзідыюма Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня Сямён Домаш. Ён запрасіў удзельнікаў да шчырай размовы, паведаміў пра магчымыя кірункі супольнай дзейнасьці і практычную дапамогу з боку арганізатараў мерапрыемства.**

Да ўвагі прысутных былі прапанаваныя паведамленні «Нацыянальныя меншасьці Гарадзеншчыны ў сьвятле перапісу насельніцтва-99», «Правы нацыянальных меншасьцяў у беларускім заканадаўстве», «11 гадоў Саюза палякаў Беларусі. Падзеі, факты, меркаванні», «Украінцы ў Беларусі: мінулае і сучаснае», «Праблемы асіміляцыі літоўцаў у Беларусі і Віленскім краі», «Татары Гарадзеншчыны», «Культурна-асьветная арганізацыя чувашаў Гродна». Тэмы адпаведна раскрылі журналіст Валерый Задаля, каардынатар Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання «Ратуша» юрыст Фелікс Гавін, старшыня СПБ Тадэвуш Гавін, доктар гістарычных навук, прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта Дзмітрый Караў, прадстаўніца аб'яднання літоўцаў Гарадзеншчыны «Тэвінэ» Валянціна Дулькене, старшыня грамадскага аб'яднання татар горада Гродна Аляксандр Крыніцкі. Кіраўнік нядаўна ўтворанага ў Гродне рэгіянальнага грамадскага аб'яднання «Абшчына беларускіх чувашаў» Міхаіл Андрэеў паведаміў пра пачатак дзейнасьці арганізацыі.

Адбыўся адкрыты абмен думкамі. Тадэвуш Гавін, у прыватнасьці, адзначыў, што ля вытокаў Саюза палякаў Беларусі стаяў вядомы гарадзенскі пісьменнік Аляксей Карпюк. На думку кіраўніка СПБ, цяпер праводзіцца ранейшая палітыка, скіраваная на дэнацыяналізацыю нацыянальных меншасьцяў. Добрая заканадаўчая база застаецца на паперы. У сапраўднасьці ўсё выглядае інакш. Асабліва гэта тычыцца польскамоўнага навучання, у прыватнасьці, пабудовы школ. «Мы, беларусы польскага паходжання, спраўна плацім падаткі, мацуем эканоміку краіны, уносім свой уклад у культуру, таму маем права на ўвагу і павагу з боку дзяржавы».

Доктар гістарычных навук, прафесар Дзмітрый Караў прааналізаваў беларуска-украінскія ўзаемадачыненні на працягу тысячагодзьдзя. Адзначыў, што да гэтага часу навукоўцы сур'ёзна не займаюцца вывучэннем глыбінных плыняў братніх народаў.

Валянціна Дулькене прысвяціла сваё выступленне праблематыцы Віленскага краю, дзе здавён жывуць беларусы, палякі і літоўцы.

Аляксандр Крыніцкі звярнуў увагу прысутных на цяжкасьці, якія трэба пераадолець, каб хоць нешта зрабіць для сваёй грамадкай арганізацыі. Пабудаваць веранду ў сядзібе штаб-кватэры абласнога цэнтра татарскай культуры - праблема. Адныя ўзгадненні з чыноўнікамі гарадскіх уладаў забіраюць некалькі дзён і каштуюць шмат нерваў. Каб патрапіць у архіў і паглядзець гістарычныя дакументы, што маюць дачыненне да татарскай супольнасьці на Гарадзеншчыне, неабходна мець дазвол Мінюста. Але адмовілі. Відаць, баяцца паказаць іншыя дакументы.

Чарговая сустрэча запланавана на пачатак чэрвеня.

**Уладзімір Кавалёў**

# Гэльберг вярнуўся на катэдру

**Нядаўна катэдры мікрабіялёгіі Гарадзенскага мэдычнага ўнівэрсытэту было прысвоена імя прафэсара Гэльбэрга. Рашэнне аб гэтым было прынятае на гарадзенскай канфэрэнцыі, прысьвечанай 100-годзьдзю зь ягонага дня нараджэньня.**

Амаль 20 год, пачынаючы з 1959-га, прафэсар Гэльбэрг узначальваў гэтую катэдру, а ў 20-30-я гады ён працаваў у Менску у санітарна-бактэрыялягічным інстытуце, дасьледаваў і вырабляў у лябараторыі вакцыны супраць воспы, сухотаў, мэнінгіту ды іншых захворваньняў, меў сталыя кантакты з Францыяй, дзе надрукаваў тры навуковыя працы.

Дарэчы, першая прышчэпка дзіцяці дзеля прафілактыкі сухотаў была зробленая ў 1929 годзе ў Менску. Хаця французы, якія першымі дасьледавалі гэтую праблему, практыкавалі ўжываньне вакцыны праз рот. Самуіл Гэльбэрг быў абвешчаны ворагам народу, арыштаваны проста на працы і абвінавачаны ў прыналежнасьці да контррэвалюцыйнай арганізацыі, засуджаны ды адпраўлены ў ссылку, а пазьней падпаў яшчэ раз пад справу «дактароў-шкоднікаў». Пасьля вайны спадар Гэльбэрг працаваў на катэдры, абсталяваў таксама і лябараторыі гарадзенскіх дыспансэраў.

**Ул. інф.**

# Пагранічны пераход «Брузгі - Кузніца» закрываюць

**Паводле ініцыятывы польскага боку з 1 жніўня 2000 года (тэрмінам на тры месяцы) будзе поўнасцю закрыты пагранічны пераход «Кузніца - Брузгі» на польска-беларускай мяжы.**

Для палякаў закрыццё пераходу звязана з пачаткам рэалізацыі інвестыцыйнага праекта па рэканструкцыі яго польскай часткі. Як паведаміў беларускі МЗС, у 2000-м годзе Еўрасаюз выдаткаваў Польшчы спецыяльнае фінансаванне на рэканструкцыю пагранперахода. Разам з тым Брусель адмовіў Беларусі ў дапамозе па правядзенні аналагічных работ на яе тэрыторыі.

МЗС Беларусі расцэньвае дадзеную сітуацыю як нежаданне партнёра весці рэканструкцыю пагранпераходаў сумесна для спрашчэння ўзаемных лаездак грамадзян.

Напачатку траўня на сустрэчы прадстаўнікоў Гарадзенскай вобласці і Падляскага ваяводства праблема абмяркоўвалася чарговы раз. Польская дэлегацыя на гэтых перамовах выступіла з прапановай перанесці грузапасажырапаток на час рэканструкцыі на пагранпераход «Бераставіца -Бабровікі», які па тэхнічных прычынах проста не гатовы да гэтага. У адказ беларускі бок паспрабаваў кампрамісна вырашыць праблему і захаваць на «Кузніцы - Брузгі» на гэты час рух толькі легкавога транспарту.

Па інфармацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі, пазіцыя беларускага боку дагэтуль застаецца нязменнай.

**Андрэй Асмалоўскі**

# Дарогу будучым Агінскім

**У аўторак, 16 траўня, у Гродне распачаўся чарговы конкурс юных кампазітараў імя Юрыя Семянякі.**

Усе мерапрыемствы праходзяць у Гарадскім доме культуры. Адкрыўся конкурс канцэртам з удзелам балета сучаснай харэаграфіі «Тад», знанага гарадзенскага майстра ігры на гітары Захарава і хора Гарадзенскай капэлы.

Чатыры дні, што будзе доўжыцца конкурсная праграма, юныя кампазітары наведаюць з экскурсіямі цікавыя месцы Гродна і будуць мець майстар-класы з вядомымі музычнымі майстрамі.

Падвядзенне вынікаў конкурса і ўзнагароджанне пераможцаў адбудзецца ў пятніцу.

**Алена Сіневіч**

# Ні слова без дазволу

**Намеснік начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Гарадзенскага аблвыканкама палкоўнік міліцыі Валерый Аўрамчык падпісаў распараджэнне аб дадатковых мерах па ўзаемадзеянню са сродкамі масавай інфармацыі.**

У мэтах паляпшэння іміджу міліцыі і ўпарадкавання зносінаў з прадстаўнікамі СМІ ў кожным гарадскім і раённым аддзеле унутраных спраў плануецца стварыць пазаштатныя карпункты раённых газет, а таксама выданняў МУС («На страже») і УУС («Милицейский вестник»).

У адпаведнасці з распараджэннем, выступленні супрацоўнікаў органаў унутраных спраў у мясцовых СМІ павінны ўзгадняцца з начальнікам тэрытарыяльнага гарадскога або раённага аддзела ўнутраных спраў або ягонымі наменснікамі. Усе выступленні супрацоўнікаў апарату УУС, гарадскіх і раённых АУС у абласных і рэспубліканскіх СМІ неабходна ўзгадняць з прэс-цэнтрам упраўлення унутраных спраў.

Прыярытэт у атрыманні інфармацыі, датычнай дзейнасці органаў унутраных спраў, прапанавана аддаваць журналістам, акрэдытаваным пры прэс-цэнтры УУС аблвыканкама.

**Ася Куніцкая**

# Магутны МТЗ-920 - трактар для манахаў

**Нядаўна Жыровіцкі манастыр стаў уладальнікам новага трактара МТЗ-920.**

Такі падарунак манастыру і духоўнай семінарыі зрабілі менскія трактарабудаўнікі, каб падтрымаць жыццядзейнасць манастырскай гаспадаркі.

На сённяшні дзень у манастыры і семінарыі жывуць больш за 500 чалавек. Ва ўладанні манастыра знаходзіцца 154 гектары зямлі, на якіх вырошчваюць бульбу, буракі, збожжавыя, гародніну. Паводле словаў манастырскага эканома айца Авеля, ураджайнасць на іхніх землях прыкладна такая ж, як і ў калгасах раёна. Гэта пры тым, што ў гэтыя землі не ўносяцца хімічныя ўгнаенні - толькі арганіка. Свае палеткі манахі, у асноўным, апрацоўваюць уручную. Прынамсі, так было да гэтага года. Цяпер, з магутным МТЗ-920, працаваць на зямлі будзе лягчэй. А свае механізатары ў манастыры ёсць.

**Мікола Кагановіч**

# Візіт у Брусель журналістаў і праваабаронцаў

**Па запрашэнню Міжнароднай Федэрацыі Журналістаў з 8 па 12 траўня ў Брусэлі знаходзілася дэлегацыя Беларускай Асацыяцыі Журналістаў. Нашу краіну прадстаўлялі старшыня БАЖу, рэдактар радыё «Рацыя» Жана Ліцвіна, рэдактар газеты «Беларускі рынак» Вячаслаў Хадасоўскі і старшыня Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання «Ратуша» Аляксандр Мілінкевіч.**

У праграме візіту былі сустрэчы са старшынём Дэлегацыі па адносінах з Беларуссю Еўрапарламента Янам М.Версма, сябрам гэтай дэлегацыі Ары Астландэрам, экспертам па краінах Усходняй Еўропы Еўракамісіі Эмай Таледана. Падчас спатканняў бакі абмеркавалі пытанні стану развіцця сродкаў масавай інфармацыі, свабоды слова і друку, грамадска-палітычнай сітуацыі на Беларусі і перспектывы пашырэння праграмаў «Дэмакратыя» і Tasic у нашай краіне.

Праблемы абароны правоў чалавека на Беларусі былі прааналізаваныя падчас сустрэчаў з прадстаўнікамі вядомых грамадскіх арганізацыяў - «Хьюман Райтс Вотч», «Эмністы Інтэрнэшнл», Міжнароднай Лігай Правоў чалавека і Праграмным Дарадцам Генеральнага Дырэктара правоў чалавека Рады Еўропы Марыё Атэмэйерам.

**Ул. інф.**

# «Гарадзенскія школьнікі выбіраюць... расейскага прэзідэнта»

## ПАГОНЯ №9 ад 23 сакавіка 2000 года

**Многім чытачам ПАГОНІ запомнілася публікацыя пра тое, як у гарадзенскай школе №9 выбіралі расейскага прэзідэнта. Публікацыя мела значны рэзананс, рэдакцыя атрымала шмат тэлефонных званкоў і лістоў з гэтай нагоды. Абсалютная большасць абуралася гэтым фактам паўзучай русіфікацыі. Аднак самы нечаканы водгук прыйшоў з...самой школы №9, які напісалі вучні класа, дзе праводзілася «галасаванне». Змест, стыль, і танальнасць гэтага паслання яшчэ раз пацвярджае тое, што нездарма беларускія школьнікі сёння выбіраюць у прэзідэнта чалавека, які прыйшоў да ўлады на крыві цэлага народу і чачэнцаў «мочит в сортире», які «... заўсёды маўчыць, затое шмат робіць...». Відаць, на шкоду школьнай праграме, настаўнікі сапраўды ад душы стараюцца сеяць «разумнае і добрае». Зрэшты, чытайце самі...**

«Хотелось бы высказаться насчёт статьи, опубликованной в N9 от 23 марта. Безумно рады были этой заметке наши отличники, потому что Лариса Николаевна Шевченко - один из немногих педагогов, которые не делают из отличников культа. В статье обливали грязью учительницу истории школы N9 г.Гродно Шевченко Ларису Николаевну. Будучи её учениками, хотелось бы высказать свою точку зрения, как высказал её «Іван Паўлёнак». Поскольку мы учимся в одном из этих классов, где проводились «выборы», мы участвовали в этих «выборах». И были в большинстве теми, кто проголосовал за В.Путина. И не потому, как пишет автор заметки, что этого хотела Лариса Николаевна, а потому, что этого хотели мы. Прочитав заметку, можно легко увидеть, что писал её человек, не присутствующий на уроке. Поэтому хотелось бы сказать, как всё было на самом деле.

После того, как прозвенел звонок, Лариса Николаевна предложила провести нам свои выборы российского президента (что плохого в том, что учитель пытается воспитать в своих учениках чувство политического долга??), класс восринял эту идею с энтузиазмом (и не потому, что не нужно отвечать урок, потому что мы уже давно спорили, кого стоит выбрать в президенты, кто поведёт страну вперёд. И посмею напомнить «Паўлёнку», што Россия - это страна, с которой мы связаны давно и надолго. А позже «великий автор правдивой статьи» замечает, «что грядут выборы в Америке, что это будет?», а вот на это нам уже наплевать!). И на листике со своим кандидатом нужно было написать свою фамилию и фамилию своего кандидата, а не сочинение «Роль Путина в нашей жизни». Поскольку мы, кроме того, что Путин за реформы, Зюганов - коммунист и Жириновский из ЛДПР ничего не знали, пришлось Ларисе Николаевне кратко в двух-трёх предложениях объяснить, кто есть кто. При желании можно было не участвовать в «выборах» или просто не писать свою фамилию. Вот и все выборы... Замечу, что «выборы» длились не больше 15 минут. После этого нам пришлось открывать учебники.

Не понимаем, как человек, не присутствующий на уроке, может судить о том, что там было! А то, что «дети писали, что мы за Путина, т.к. он не говорит, а делает», то нехорошо читать чужие записки, а тем более лазить по чужим ящикам! А слова эти принадлежали мне (О.Шумило), т.к. я привыкла не только высказывать свою точку зрения, но и аргументировать её. Что и сделала на «выборах». А вы, товарищ «Паўлёнак», свою точку зрения, как мы уверены, аргументировать не можете! Где доказательства, что Лариса Николаевна читала пропаганду Владимиру Владимировичу? Да даже если бы и читала? Она бы высказала свою точку зрения, а соглашаться или нет, это уже решать нам. Хочу заметить, что в 15 лет голова на плечах уже есть, а если её нет у ваших детей, то это ваши проблемы, а не Ларисы Николаевны! Где доказательства, что мы ничего не делали на уроке? У вас их нет! Иначе, как объяснить, почему вы подписались вымышленной фамилией?! И ещё хотелось бы сказать спасибо за «лестный» отзыв о современной молодёжи. Вам повезёт, если никто из «отморозков», наркаманаў, алкаголікаў і дармаедаў» не узнает вашей настоящей фамилии! Т.к. молодёжь, в отличие от вас, привыкла выяснять свои проблемы лично, а не через газету, скрывшись под чужой фамилией. Кто знает, может в один прекрасный день возле дома вас встретит «отморозок» и... Боюсь, писать после этого вы долго не сможете.

**Т.к пишем мы правду и бояться нам нечего, то пишем вам настоящие фамилии: Шумило Оксана и Хакало Катя, 9"Б»»**




# Лукашэнка - галоўны экзаменатар

**Сёлета кантроль за працай прыёмных камісій і іх адказнасць за магчымыя парушэнні стануць яшчэ больш жорсткімі. Пра гэта Аляксандр Лукашэнка заявіў 12 мая падчас нарады па арганізацыі і кантролю за ходам уступных экзаменаў у вышэйшыя і спецыяльныя навучальныя ўстановы Беларусі.**

Як адзначыў кіраўнік дзяржавы, жорстка кантраляваць ход уступных экзаменаў абавязвае і бясплатная форма адукацыі. На самай справе яна каштуе для дзяржавы велізарных грошай. Тым не менш мы захавалі магчымасць для любога чалавека вучыцца, а таму гэтая сістэма павінна працаваць сумленна і справядліва. А.Лукашэнка папярэдзіў рэктараў аб адказнасці ў выпадку выяўлення нават самых нязначных парушэнняў і злоўжыванняў. Гэта ж тычыцца і членаў кантралюючых камісій. Прынцып сацыяльнай справядлівасці сёлета, па яго словах, павінен праявіць сябе поўнасцю.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што гэтаму будзе спрыяць новы механізм кантролю. «Бліжэйшым часам мы збярэмся асобна з тымі, хто будзе непасрэдна ў гэтай прэзідэнцкай камісіі ажыццяўляць кантроль за правядзеннем экзаменаў у вышэйшых навучальных установах. Там яны атрымаюць канкрэтныя інструкцыі ад спецыялістаў і той групы, якая па майму даручэнню распрацоўвае механізм кантролю. Механізм кантролю будзе сёлета самы сур'ёзны, аж да замены ў дзень экзаменаў экзаменуючых. У тых ВНУ, дзе вельмі вялікі конкурс, гэта будзе найбольш верагодна», - заявіў А.Лукашэнка.

**Ул. інф.**

# Гісторык Ігар Кузняцоў: Генацыд НКВД супраць беларускага народа даказаны

**Крымінальная справа пра даследаванне абставінаў, звязаных з масавымі забойствамі ў Курапатах, да гэтага часу не страціла сваёй актуальнасці. Першае следства было праведзена ў 1989-90 гадах і скончылася тым, што было пацверджана сцвярджэнне З.Пазьняка аб расстрэлах у Курапатах беларускіх грамадзянаў карнымі органамі СССР у перыяд масавых рэпрэсіяў канца 30-х гадоў. Потым, у 1995-96 гадах следства «па Курапатах» узнавілася, паколькі некаторыя гісторыкі і грамадскія дзеячы выказалі думку, што больш як 100 тысяч чалавек у Курапатах знішчылі немцы, а не НКВД. Але і другое следства цалкам пацвердзіла выснову першага.**

Тым не менш, «прадстаўнікі грамадскасці» пэўнага накірунку не супакоіліся, пачалі пісаць лісты на імя прэзідэнта і дамагліся свайго: следства было ўзноўлена ў трэці раз у 1997 годзе. 30 красавіка гэтага года яно зноў было спынена паводле тых жа прычынаў - генацыд над беларусамі праводзілі менавіта карнікі з НКВД. Але грамадскасць мала ведае пра вынікі трэцяга следства, бо афіцыйныя інстанцыі замоўчваюць іх. Адным з самых дасведчаных людзей, што да пытанняў камуністычнага генацыду, у Беларусі з'яўляецца гісторык Ігар Кузняцоў. Ягонае эксклюзіўнае інтэрв'ю прапануецца чытачам ПАГОНІ.

*- Раскажыце, калі ласка, пра вынікі чарговага даследавання «справы Курапаты».*

- У Менску ёсць група людзей, якія называюць сябе грамадскай камісіяй па вывучэнню гэтых фактаў. Чамусьці праваахоўныя органы краіны ідуць у іх на повадзе. У трэці раз даследаванне было даручана ваеннай пракуратуры, бо «грамадскасць» выказала недавер цывільным следчым. Справу вёў падпалкоўнік Віктар Сомаў.

«Грамадскасць» падкінула следству новага сведку, які нібыта бачыў, як немцы расстрэльвалі яўрэяў з Гамбурга і жыхароў Менска. Але сведка аказаўся вельмі цікавым чалавекам. Ён падаў пра сябе звесткі, што быў узнагароджаны за ўдзел у вайне, але ваенныя архівы гэта цалкам абверглі. Высветлілася, што напрыканцы 40-х ён быў асуджаны за крымінал. Больш таго, меліся падазрэнні, што ён быў агентам нямецкіх карнікаў. Такога «сведку» следства, пры ўсім жаданні «грамадскасці», скарыстаць не магло.

*- Дрэнныя справы ў гэтых людзей, калі яны прапануюць такіх «сведкаў»...*

- У масавых захаваннях былі знойдзены гільзы ад замежных пісталетаў. Гэта магло б стаць падставай для «нямецкай версіі», але ўдалося даказаць, што «чэкісты» мелі імянную зброю замежнай вытворчасці.

Больш таго. Было раскапана масавае пахаванне, і ўпершыню былі знойдзены дакументы. Адным з іх была квітанцыя за адабраныя ў турме НКВД грошы ў аднаго з вязняў. Другі дакумент таксама паходзіў з карных інстанцыяў Савецкага Саюза. Абодва дакументы былі датаваныя 1939 і 1940 гадамі.

*- «Нямецкая версія» аказалася дэзінфармацыяй?*

- Несумненна. Пастанова следчага В.Сомава аб спыненні крымінальнай справы займала болей як 100 лістоў і цалкам зацвердзіла вінаватасць НКВД у генацыдзе беларускага народа. Аднак, каб прыцямніць вінаватасць «слаўных чэкістаў», пастанова была скарочана. Афішаваць вынікі следства было прызнана немэтазгодным.

Цяпер «грамадскасць» рыхтуе выдаць кнігу пад умоўнай назвай «Курапаты: нараджэнне і гібель фальшыўкі». І гэта нягледзячы на рэальныя гістарычныя факты.

Спадар Ігар Кузняцоў паабяцаў ПАГОНІ расказаць больш падрабязна пра масавыя рэпрэсіі ў Беларусі. Вынікі нашых дамоўленасцяў чакайце ў наступных нумарах.

**Сяргей Самасей**

# Прэс-рэліз Сакратарыята Усебеларускага З'езда

**У краіне распачалося вылучэнне дэлегатаў на Усебеларускі З'езд. Першы дэлегат ад тэрыторыяў быў вылучаны на сходзе грамадзянаў у Віцебску. Ім стаў старшыня абласнога грамадскага аб'яднання «Чарнобыль-дапамога» Анатоль Гнеўка.**

Менавіта на Віцебшчыне грамадскія арганізацыі найбольш актыўна дзейнічаюць у падрыхтоўцы Усебеларускага З'езда. Рабочая група Віцебскай абласной асамблеі недзяржаўных грамадскіх арганізацыяў прыняла рашэнне звярнуцца да ўсіх грамадскіх аб'яднанняў з прапановай стварыць гарадскія і раённыя аргкамітэты ды ініцыятыўныя групы, увесь час інфармаваць насельніцтва пра падрыхтоўку З'езда і весці вылучэнне дэлегатаў. Таксама рабочая група Віцебскай абласной асамблеі звярнула ўвагу на неабходнасць правядзення З'езда не пазней як у ліпені 2000 года. Акрамя таго, рабочая група прапанавала: калі правядзенне сходу грамадзянаў станецца немажлівым, вылучэнне дэлегатаў павінна праводзіцца шляхам збору подпісаў. Рэспубліканскаму аргкамітэту было рэкамендавана звярнуцца да рэдактараў газетаў «Народная Воля», «Наша Свабода», «БДГ» ды іншых з просьбай больш актыўна асвятляць падрыхтоўку З'езда.

Па стане на 15 траўня, на Усебеларускі З'езд ужо вылучана 73 дэлегаты ад розных рэгіёнаў краіны.

Кантактны тэлефон Сакратарыята Усебеларускага З'езда - (017) 223-65-29

# Польская мова пад абаронай Закона

**9 мая ў Польшчы ўступіў у сілу закон аб польскай мове, які абавязвае ўлады, арганізацыі і ўстановы карыстацца арфаграфічна правільнай мовай. Пра гэта паведамілі ў пасольстве Польшчы ў Мінску.**

Законам ўстанаўліваецца, што ўсе замежныя тэксты - юрыдычныя, рэкламныя, інструкцыйныя - у інтарэсах тых грамадзян, якія не ведаюць замежных моў, павінны быць забяспечаны перакладам на польскую. У адпаведнасці з новым законам, выкарыстоўваць польскую мову цяпер належыць ў назвах устаноў, тавараў і паслуг, у рэкламе, на этыкетках тавараў, на рахунках, квітанцыях і г.д. Усе надпісы на шыльдах кантор, устаноў, крамаў, у грамадскім транспарце будуць рабіцца выключна папольску. У законе ёсць і палажэнне аб тым, што ўлады павінны клапаціцца аб правільным выкарыстанні польскай мовы, перашкаджаць яе вульгарызацыі і спрыяць распаўсюджванню ў іншых краінах.

За выкананнем гэтых норм закона прадпісана сачыць Савету польскай мовы, які будзе акумуляваць меркаванні аб яе функцыянаванні, вызначаць прынцыпы арфаграфіі і раз у два гады рабіць справаздачу перад сеймам і сенатам аб сваёй дзейнасці па абароне нацыянальнай мовы.

**Уладзімір Траццякоў**

ПЯРЭСТЫ КУТ

# «Нёман» на ўздыме

**Футбалісты гарадзенскага «Нёмана» нечакана ўдала стартавалі ў сёлетнім чэмпіянаце краіны. Пасьля шостага тура (пятай часткі турнірнага шляху) каманда знаходзіцца на чацьвёртым месцы.**

Прыемна зьдзіўляе сваіх заўзятараў і «Ліда». А вось слонімскі «Камунальнік» пакуль на дне турнірнай табліцы.

Заўзятары гарадзенскага футболу даўно ўжо адвыклі ад посьпехаў «Нёмана». Пасьля перамогі ў Кубку краіны ў 1993 годзе каманда так і ня здолела дасягнуць значных посьпехаў. Затое сёлета ахвярамі «нёманцаў» сталі моцны салігорскі «Шахцёр», леташні чэмпіён барысаўскі БАТЭ. Абодва супернікі атрымалі ў сваю браму па тры «сухіх» мячы.

У апошнім туры першынства, 7 траўня, гарадзенцы ў гасьцёх перамаглі традыцыйна нязручнага для сябе суперніка - віцебскі «Лакаматыў-96». На два галы каманды-«бамжа» (віцебляне сёлета вымушаныя гуляць за межамі роднага гораду, дзе для іх не знайшлося месца), хлопцы Сяргея Саладоўнікава адказалі трыма мячамі.

Посьпеху дамагліся і лідчукі. На сваім стадыёне зь лікам 2:1 яны перамаглі той жа БАТЭ. Пасьля шасьці гульняў «Ліда» мае толькі адну паразу і знаходзіцца ў сярэдзіне табліцы.

Горш ідуць справы ў «Камунальніка». Вось і ў апошнім туры слонімцы на сваім полі саступілі 1:3 другому дэбютанту вышэйшай лігі - рэчыцкаму «Ведрычу». На рахунку каманды няма пакуль перамогаў, і яна разам з віцеблянамі замыкае турнірную табліцу.

Ну а наверсе турнірнай табліцы знаходзяцца мазырская «Славія», «Гомель» і менскае «Дынама». Крыху адстаюць ад іх «Нёман», бабруйская «Белшына» і «Шахцёр».

**Вітаўт Руднік**

# Прыгонныя півавары былі схільныя да крадзяжу

**Піва - адно з самых старых вынаходніцтваў чалавецтва, равеснік цывілізацыі.**

Ужо шэсць тысяч гадоў таму яго варылі шумеры, першы цывілізаваны народ у гісторыі. Археолагі знайшлі іх гліняныя таблічкі з дэтальным апісаннем тэхналагічнага працэсу піваварства. Іншыя старажытныя цывілізацыі таксама ведалі піва. Егіпцяне звычайна варылі піва з ацеслівага ячнага хлеба, і гэты напой згадваецца ў старажытнаегіпецкай «Кнізе мёртвых». Ут-Напішці, вавілонскі папярэднік Ноя, грузіў піва на каўчэг у час усяленскага патопу. Святым напоем піва было ў вікінгаў...

Сакральная роля піва, яго сувязь з «тым светам» прасочваецца ў большасці культураў і цывілізацыяў. Нездарма ж і ў беларусаў лічылася напаўжартам, што душы памерлых накіроўваюцца «да Абрама на піва», у чым бачнае і спадзяванне трапіць «на ўлонне Аўраамава», і намёк на звычайную нацыянальнасць шынкароў.

Хутчэй за ўсё, піва было вынайдзена выпадкова, калі пакінутае ў гліняным гаршку зерне намокла і, дзякуючы ферментацыі, атрымаўся слабы спіртны напой. Зерне, якое выкарыстоўвалася для атрымання піва, у розныя часы і ў розных народаў было рознае - рыс, проса, сорга, кукуруза, пшаніца, авёс, грэчка, але найчасцей гэта быў ячмень, культура досыць непатрабавальная і распаўсюджаная ў розных кліматычных зонах. Асабліва папулярным ячмень быў на поўначы Еўропы, таму піва (ды яшчэ мёд) тут цалкам дамінавала. Затое на поўдні кантынента, дзе панавала віно, півам шчыра пагарджалі.

Ва ўсіх кутках былога СССР спажыўцу звычайна прапаноўвалася піва пад універсальнай маркай «Жыгулёўскае», што, зрэшты, не гарантавала адзінства тэхналогіі нават на адным і тым жа бровары. Ніякія рэгіянальныя асаблівасці, сталыя традыцыі, мякка кажучы, не віталіся - магчыма, толькі балтыйскім краінам удавалася захоўваць пэўную «піўную аўтаномію» і варыць паціху вядомыя здаўна гатункі. Нічым асаблівым не магла пахваліцца і падсавецкая Беларусь, таму сёння піваварства ў нашай краіне пачынаецца нібыта «з чыстага ліста». Але калі ўглядзецца ў нашу гісторыю больш пільна, высветліцца, што стагоддзямі тэхналогія піваварства і культура спажывання піва ў Беларусі развіваліся ў агульнаеўрапейскім рэчышчы, у цеснай сувязі не столькі з бляклымі традыцыямі ўсходняга суседа, колькі блізкіх і далёкіх еўрапейскіх краінаў.

Легенды, міфы, жарты тысячагоддзямі спадарожнічалі піву, таму яго можна з поўным правам лічыць адной з «вечных тэмаў», сапраўдным пластом культуры, які ў нас паспеў зарасці дзірваном... Для беларускай нацыянальнай ідэі піва - адна з магчымасцяў прарыву ў масавую свядомасць ці падсвядомасць. На жаль, ніхто ніколі не вывучаў на добры лад гісторыю славутых беларускіх бровараў, хіба толькі з пункту гледжання класавай барацьбы наёмных рабочых з уладальнікамі. Але якое піва яны варылі, якія тэхналогіі ўжывалі, якія людзі стаялі ля вытокаў айчыннай піваварнай прамысловасці? Толькі ў апошнія гады вярнуліся з нябыту імёны лідскіх сем'яў Пупко ды Папірмайстараў, менчука графа Караля Чапскага, аўстрыйцаў Лекертаў, якія стварылі своеасаблівую піўную імперыю ў перадрэвалюцыйнай Беларусі.

Піва было незаменным у гастраноміі ўсёй былой Рэчы Паспалітай. Гарачае піва з мёдам ці макавым малаком, каўбасы, звараныя ў піве, іншыя стравы з піва былі аздобай стала. На працягу стагоддзяў шляхецкае снеданне немагчыма было ўявіць без адмысловага піўнога супу, які закалочваўся, як правіла, з сырымі ячнымі жаўткамі, а таксама смятанай, тварагом ды рознымі спецыямі. Такі суп, які называўся «граматкай», «бярмушкай» ці «фарамушкай», альбо нават проста піва, падагрэтае з кавалкамі чэрствага хлеба ці тварагом, было прынята есці з грэнкамі. Піўныя супы замянялі за старадаўнім сталом Рэчы Паспалітай каву ды гарбату, якія пачалі іх выцясняць толькі з XVII стагоддзя, але яшчэ і ў XIX стагоддзі «граматка» карысталася папулярнасцю.

Піва, якое варылі ў панскіх фальварках, звычайна не вылучалася высокай якасцю. Трынога, кацялок (ці гаршчок з вузкім горлам і дугападобнымі ручкамі), дзяжа ці кадка - вось і ўсё начынне, якога патрабавала хатняе піваварства. Прыгонныя півавары не вызначаліся высокім майстэрствам і да таго ж былі схільныя да крадзяжу... Увогуле ў гарадах піва варылі лепш, асабліва там, дзе піваварныя традыцыі былі даўнія і падтрымліваліся адмысловымі цэхамі. Цэхі піватвараў і саладоўнікаў існавалі ва ўсіх вялікіх беларускіх гарадах. Прывілеі на ўтрыманне бровараў і корчмаў былі прадметам сталага клопату магдэбургскіх гарадоў, бо давалі немалую долю даходаў гарадскіх бюджэтаў. Але і сёння кожны еўрапейскі горад ганарыцца сярэднявечнымі прывілеямі на піваварства, нададзенымі магутнымі калісь сіньёрамі, атрыбутыкай былых піваварскіх цэхаў, рознымі сведчаннямі мясцовай піўной даўніны. Калі добра пашукаць, дык было б чым ганарыцца і беларускім гарадам.

У даўніну ў Беларусі піва пілі вельмі шмат (нават прыгонны селянін выпіваў да 100 літраў піва ў год). Вадой грэбавалі, што на тагачасны ўзровень санітарыі было абгрунтаваным. Любілі піва і гараджане, якім добра пілося ў лазнях. Галоўным напоем піва было ў даўніх шынках ды корчмах. Іх будынкі вылучаліся сярод іншых дамоў вёскі ці мястэчка. Існавала сістэма ўмоўных знакаў, што дазваляла здалёк даведацца, якімі напоямі гандлююць: «вянец на віно, веха на піва, крыж на мёд». Піўная «веха» ўяўляла сабою пэўным чынам скручаны пук саломы. «Ад вехі да вехі», ад карчмы да карчмы ехалі фурманы. Менавіта яны лічыліся найлепшымі знаўцамі піва.

**Алесь Белы**



**Па гарызанталі:** 7.Грыб з жоўта-бураватай плямістай шапкай. 8.Адсутнасць дысцыпліны. 10.Група крышталяў, якія зрасліся ў аснове. 11.Скамянелая смала хваёвых дрэваў. 12.Халодны соус да стравы. 14.Іх сталіца - Будапешт. 16.Пэндзаль жывапісца. 17.Бог вінаградства ў старажытных грэкаў. 19.Гнеў, страх, радасць (агульная назва). 20.Рака на Гарадзеншчыне. 24.Канат з валокнаў ці дроту. 25.Пачатковая частка твору. 26.Прадмет рабочага адзення. 30.Турэцкі крывы кінжал. 31.Краіна з самым дасціпным радыё. 32.Хто аўтар «Дыскабола»? 33. Палоска тканіны, прышытая фальбонамі да спадніцы. 34.Мохавае балота.

**Па вертыкалі:** 1.Гатунак ільну. 2.Прылада для запуску рухавіка. 3.Сумчатая жывёліна. 4.Гаручая вадкасць з нафты. 5.Дошка, выпуклая з аднаго боку. 6.Прадмет мэблі французскага паходжання. 9. Мера ёмістасці сыпкіх целаў у некаторых краінах. 13. Шведскі навуковец, які працаваў у Расеі адначасова з Ламаносавым. 15.Сціркa. 17. «Дыханне кветак». 18.Апілкі (разм.). 21.Месяц года. 22.Месца жыхарства паўночных аленяў. 23.Раённы цэнтр на Віцебшчыне. 27.Галавешка. 28.Смутак, туга. 29.Дзяржава ў Цэнтральнай Амерыцы. 32.Супрацьтанкавы сродак.

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N16:

**Па гарызанталі:** 7.Перамога. 8.Альбінос. 10.Ложак. 11.Казырок. 12.Снягір. 14.Кіраса. 16.Скань. 17.Буча. 19.Рыцына. 20.Уйгуры. 24.Сырт. 25.Згода. 26.Макаль. 30.Гарлач. 31.Пелядзь. 32.Падла. 33.Глупства. 34.Маларыта.

**Па вертыкалі:** 1.Вершалін. 2.Амбарас. 3.Іголка. 4.Клык. 5.Абозны. 6.Котлішча. 9.Джонка. 13.Гнейс. 15.Арышт. 17.Бурак. 18.Кніга. 21.Сырадэля. 22. «Здрада». 23.Блазнота. 27.Аблетак. 28.Баляса. 29.Шпагат. 32.Піва.

ТЭСТ ДЛЯ ЗАКАХАНЫХ

# Каханне...

**Цяжка, а мо і немагчыма нейкімі падлікамі праверыць каханне. Але калі паставіцца да такога занятку з гумарам, то гэты тэст можна ператварыць у захапляльную забаву. Умовы гульні наступныя: закаханыя адказваюць на пытанні па чарзе. Калі адказваеце «так» - пераходзьце да наступнага пытання, калі «не» - прапускаеце чаргу. Калі не ў стане адказаць ні «так», ні «не», тады двойчы прапускаеце чаргу. Гульня заканчваецца ў той момант, калі адзін з гульцоў - Вы ці Ваш каханы - адказаў на апошняе пытанне тэсту (незалежна ад таго, на якім пытанні спыніўся ягоны партнёр).**

**1.** Вы давяраеце яму (ёй) толькі маленькія непрыемнасці?

**2.** Закаханыя заўсёды крыху звар'яцелыя...

**3.** Калі ягоны (яе) падарунак Вам не падабаецца, ці скажаце пра гэта?

**4.** Сакрэт стабільнасці Вашай пары заключаецца ў тым, што Вы моцна кахаеце адзін аднаго?

**5.** Калі незнаёмы ў натоўпе кіне вокам у Ваш з ім (ёй) бок, ці зразумее ён, што вы закаханыя?

**6.** Ці з'яўляецеся Вы цэнтрам захапленняў адзін аднаго?

**7.** Каханнем, на Вашу думку, лепей займацца ў ложку?

**8.** Ці стала большасць ягоных (яе) знаёмых Вашымі сябрамі (сяброўкамі)?



**9.** Вы заўсёды здольная(-ы) даць ацэнку іроніі і гумару свайго партнёра (сваёй каханай)?

**10.** Ці даводзілася Вам хлусіць дзеля таго, каб пазбегнуць непатрэбных канфліктаў?

**11.** Вы прыслухоўваецеся да таго, што раіць Вам ён (яна) пры набыцці Вамі адзення для сябе?

**12.** Ці здольная(-ы) Вы зразумець і ацаніць маленькія ахвяры Вашага(-ай) партнёра (каханай)?

**13.** Вы лічыце, што паехаць некуды падчас канікул (водпуску) асобна - гэта падкрэсліць сваю незалежнасць?

**14.** На Вашу думку, для шчасця дастаткова аднаго толькі кахання і больш нічога?

**15.** Для жанчыны хатні ачаг - трон, адкуль яна ўсім кіруе. Ці так гэта?

**16.** Галоўнае ў жыцці - узаемаразуменне. Вы згодны?

**17.** Ці знікае ў Вас цікавасць да партнёра (каханай) адразу пасля палавога акту?

**(Працяг будзе)**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Паклапаціцеся пра здароўе. Не спяшайцеся адразу прымаць усе камерцыйныя прапановы на гэтым тыдні.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Як ніколі востра паўстане фінансавае пытанне. Не канфліктуйце з Шалямі і Вадалеямі.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Ваш аўтарытэт на працы расце, але Вы залішне захапіліся справаю і злёгку запусцілі дом.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Паспрабуйце захоўваць вытрымку ў зносінах са знаёмымі. Варта надаць асаблівую ўвагу атмасферы, што пануе ў сям'і.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Чакайце прыемных звестак ад сваякоў і сяброў. Не пашкодзіць заняцца спортам, наведаць сауну.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Як часта Вы прагульваецеся перад сном? Дарма, калі рэдка. Цёплыя вясновыя вечары - што можа быць лепей!

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Надышоў час зрабіць перапынак у працы і адпачыць. Выхадныя дні правядзіце ў гасцях.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Напрыканцы тыдня Ваша фінансавае становішча можа заўважна палепшыцца, калі прыкладзеце пэўныя намаганні.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Даволі спрыяльны для Вас тыдзень. Але не варта прымаць удзел у азартных гульнях - наўрад ці пашанцуе.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Калі знікла жаданне займацца хатняй гаспадаркай, наведайце тэатр, завітайце да сяброў, але абавязкова з каханым чалавекам.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Дазвольце сабе маленькае свята - запрасіце да сябе ў чацвер найлепшых сяброў, а ў пятніцу вазьміце пуцёўку ў дом адпачынку.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Вам не пашкодзіць загарадная прагулка. Задаволіць добрая фінансавая падтрымка.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі:
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by

Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 1 690 Наклад 7 281
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 17.05.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей